Гродна
№ 14 (425),
9 жніўня 2015

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# АБП ТАДЭВУШ КАНДРУСЕВІЧ: "Я ЖЫВУ НАДЗЕЯЙ, ШТО ПАПА НАВЕДАЕ БЕЛАРУСЬ"


*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



**Ксёндз арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч на пленарным пасяджэнні 3 чэрвеня быў на трохгадовы тэрмін абраны старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі. Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі замяніў на гэтай пасадзе ардынарыя Гродзенскай дыяцэзіі ксяндза біскупа Аляксандра Кашкевіча, які выконваў гэтую функцыю на працягу дзевяці апошніх гадоў.**

***З новым старшынёй епіскапата Беларусі размаўляў ксёндз Павел Салабуда.***

## Навошта патрэбна канферэнцыя біскупаў?

Інстытут канферэнцыі біскупаў быў устаноўлены бл. Паўлам VI згодна з рэкамендацыямі ІІ Ватыканскага Сабору. Св. Ігнацый з Антыёхіі казаў, што там, дзе ёсць біскуп, ёсць і Касцёл. На чале кожнай дыяцэзіі стаіць прызначаны Папам біскуп, які ёй кіруе. Вядома, што ў кожнай краіне звычайна існуе некалькі дыяцэзій і ёсць агульныя для ўсіх іх праблемы. Акрамя гэтага, у кожнай краіне павінна быць пэўная адзіная душпастарская праграма. Усё гэта ўказвае на неабходнасць адзінай для ўсёй краіны касцёльнай установы, якая б апрацоўвала агульныя душпастарскія праграмы, давала рэкамендацыі, устанаўлівала агульныя нормы дзейнасці Касцёла, вырашала б яго праблемы на ўзроўні краіны і г.д. Менавіта гэтаму служыць канферэнцыя біскупаў, з'яўляючыся калегіяльным органам кіравання Касцёлам і вядзення душпастарскай працы ў той самай краіне, хоць кожны біскуп ардынарый застаецца аўтаномным у выкананні сваіх біскупскіх абавязкаў.

● працяг на с. 4

# ПАДЗЯКА ПАНУ ЗА ДАР МУЧАНІЦТВА БЛАСЛАЎЛЁНЫХ СЯСЦЁР З НАВАГРУДКА

**31 ліпеня лес каля Навагрудка, дзе ў час вайны фашысты расстралялі 11 сясцёр назарэтанак, наведалі шматлікія пілігрымы. Сястра Стэла і 10 яе паплечніц загінулі там ранкам 1 жніўня 1943 года, аддаўшы жыццё за бацькаў сем'яў.**


*Супольны здымак пілігрымаў з біскупамі каля крыжа*

Блаславёныя мучаніцы да канца споўнілі сваё пакліканне і былі вернымі харызме сваёй кангрэгацыі. Воляй заснавальніцы іх супольнасці – маці Марыі ад Пана Езуса Добрага Пастыра (Францішкі Сядліскай) – было тое, каб Кангрэгацыя Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта жыла па прыкладзе Найсвяцейшай Сям'і праз малітву, працу і цярпенні, ахвяраваныя за святы Касцёл, Папу і сем'і.

● працяг на с. 5

## Каляндар падзей

***14 жніўня***
*свята св. Максімільяна Марыі Кольбэ, заступніка дыяцэзіі.*

***15 жніўня***
*ўрачыстасць Унебаўзяцця НПМ. Благаслаўленне збожжа і кветак.*

## Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.* ***Кожную нядзелю ў 8.00*** *запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*

***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"* ***17 жніўня ў панядзелак у 18.05*** *пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

## Інтэрнэт-апытанне www.grodnensis.by

***Ці зрабілі Вы ў жніўні пастанову не ўжываць алкаголю?***

- *так*
- *я ўвогуле не ўжываю алкаголю*
- *яшчэ думаю аб гэтым*
- *я не раблю такіх пастаноў*
- *цяжка сказаць*

**выкажыся**




### XIX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Ян 6, 41–51**

Абурыліся на Езуса юдэі за тое, што Ён сказаў "Я хлеб, які сышоў з неба", і казалі: "Ці не Езус гэта, сын Юзафа, бацьку якога і маці мы ведаем?". Як жа Ён кажа "Я сышоў з неба"? Езус сказаў ім у адказ: "Не абурайцеся між сабою. Ніхто не можа прыйсці да Мяне, калі Айцец Мой, які паслаў Мяне, не прыцягне яго, і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень. У прарокаў напісана: «Усе будуць навучаны Богам». Кожны, хто чуў ад Айца і навучыўся, прыйдзе да Мяне. Гэта не значыць, што хтосьці бачыў Айца; толькі той, хто ад Бога, бачыў Айца. Сапраўды, сапраўды кажу вам: хто верыць у Мяне, мае жыццё вечнае. Я ёсць хлеб жыцця. Айцы вашыя елі манну ў пустыні і памерлі. А гэта – хлеб, які сыходзіць з неба, каб той, хто есць яго, не памёр. Я хлеб жывы, які сышоў з неба. Калі хто будзе есці хлеб гэты, будзе жыць вечна. А хлеб, які Я дам, гэта цела Маё дзеля жыцця свету".

## ЕЗУС – ЖЫВЫ ХЛЕБ

Кожны з нас добра ведае значэнне хлеба ў штодзённым жыцці. Калісьці бацька ўсім за сталом раздаваў па кавалку хлеба, старэйшыя казалі, што на хлеб трэба цяжка працаваць, а сястра катэхетка заўсёды прыгадвала, што пасля вяртання з касцёла ў першую чаргу трэба з'есці кавалак хлеба. Пан Езус кажа, што Ён – хлеб жыцця, Ён падкрэслівае нам, што гэты незвычайны хлеб сыходзіць з неба, а той, хто будзе яго спажываць, не памрэ. Мы павінны ўзгадаць, што Эўхарыстыя з'яўляецца цэнтрам нашага жыцця. Менавіта падчас святой Імшы мы становімся ўдзельнікамі незвычайнага цуду, калі звычайны кавалак хлеба становіцца жывым целам Хрыста. Варта яшчэ раз наблізіць гэтую праўду да свайго жыцця і выкарыстоўваць кожную хвіліну Эўхарыстыі для сустрэчы з Езусам, усведамляючы тое, што Ён дае нам вечнае жыццё. Варта адкрыць сэрца на Хрыста, які сышоў з неба. "Калі хто будзе есці хлеб гэты, будзе жыць вечна".

### XX ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ
**Ян 6, 51–58**

Езус сказаў народу: "Я хлеб жывы, які сышоў з неба. Калі хто будзе есці хлеб гэты, будзе жыць вечна. А хлеб, які Я дам, гэта цела Маё дзеля жыцця свету". Юдэі спрачаліся паміж сабою, кажучы: "Як Ён можа даць нам есці сваё цела?". Езус сказаў ім: "Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі не будзеце есці цела Сына Чалавечага і піць крыві Ягонай, не будзеце мець у сабе жыцця. Хто есць Маё цела і п'е Маю кроў, мае жыццё вечнае, і Я ўваскрашу яго ў апошні дзень. Бо цела Маё – праўдзівы спажытак, а кроў Мая – праўдзівы напой. Хто есць Маё цела і п'е Маю кроў, ува Мне ёсць, а Я – у ім. Як паслаў Мяне жывы Айцец, і Я жыву Айцом, так і той, хто есць Мяне, будзе жыць Мною. Гэта той хлеб, які сышоў з неба, а не той, які елі айцы вашыя і памерлі. Хто есць хлеб гэты, будзе жыць навекі".

## ВЫТРЫВАЦЬ ПРЫ ХРЫСЦЕ

Паразважаем над далейшай часткай эўхарыстычнай навукі Хрыста. Езус дае канкрэтную параду, якая датычыцца нашага жыцця. Спажыванне цела і крыві Хрыста дае вечнае жыццё. Богу важны кожны з нас, таму Ён хоча, каб нашае жыццё было ўдалым. Чытаючы вышэйшы фрагмент Евангелля, варта задумацца, як часта мы прыступаем да св. Камуніі. Ці не адбіраем мы ў саміх сябе мноства Божых ласкаў, калі вырашаем прымаць цела Хрыста толькі ў вялікія святы. Знаходзячыся ў стане асвячаючай ласкі, пасля споведзі, мы можам прымаць Хрыста ў сваё чыстае сэрца кожны дзень. Калі мы пытаем сябе, як нам трэба жыць і што рабіць, можам пачуць словы самога Хрыста: "Хто есць Маё цела і п'е Маю кроў, ува Мне ёсць, а Я – у ім". Варта зрабіць у сваім жыцці ўсё, каб вытрываць пры Богу. Няхай гэты нядзельны фрагмент Евангелля будзе для нас своеасаблівай дапамогай, каб зрабіць рахунак сумлення і з чыстым сэрцам прыступіць да святой Камуніі.

*Кс. Павел Салабуда*

# Пан учыніў для нас вялікія рэчы

**СЛОВА РЭДАКТАРА**

*Кс. Павел Салабуда*



Не ведаю, ці згодзіцеся Вы са мной, але мне здаецца, што чалавек, які жыве ў Беларусі, вельмі легкаверны. Вельмі часта нашая вера не мае цвёрдага фундамента. Мы верым ва ўсё, што чуем па радыё і тэлебачанні, нягледзячы на факт, што ўбачанае ці пачутае намі мае не вельмі шмат агульнага з рэчаіснасцю, у якой мы жывём. Мы верым урачу, які – дай Божа – прадстаўляе нам фактычны стан нашага здароўя, а чуючы крытычныя заўвагі настаўніка адносна паводзін нашага дзіцяці, мы прыкладваем усе намаганні да выхавання маладога чалавека. З аднаго боку, легкавернасць нам дапамагае, але з іншага, нам характэрна залішняя вера і давер, што не заўсёды маюць грунтоўныя падставы. ***А як у духоўным жыцці? Ці верым мы Езусу Хрысту, які сказаў, што Ён – Дарога, Праўда і Жыццё? Ці верым мы Таму, які сказаў, што неба і зямля мінуць, а Яго словы не мінуць? Ці мы, хаця б, верым самому Богу?***

Прыходзячы ў нашыя святыні ў нядзелю, а таксама збіраючыся там з нагоды іншых урачыстасцей, мы паўтараем за выбраным народам і дзякуем Богу за тое, што і сёння Ён робіць для нас усё. Назіраючы за чалавекам, які ідзе ў святыню, можна быць упэўненым, што ён ідзе туды, каб сустрэцца з Хрыстом, перажыць сваё асабістае спатканне з Богам. Вельмі часта можна пачуць, што мы з'яўляемся на зямлі пілігрымамі веры, якія накіроўваюцца ў Нябеснае Валадарства. Бог вельмі часта робіць вялікія рэчы пры супольным удзеле чалавека і яго веры. Спачатку Пан Езус узмацняе веру чалавека – прыгадайма сабе хаця б сляпога з Ерыхона, – потым вяртае яму зрок. Найперш мы павінны прасіць аб цудзе ацалення нашай веры, і ўжо толькі потым мы станем сведкамі вялікіх падзей, якія здзяйсняюцца ў нашым жыцці Божай рукой. Таму мы павінны як мага часцей прасіць, каб Бог умацніў нашу веру, каб мы маглі "пакінуць усё" і пайсці за Хрыстом.

Нашаму народу неабходна, перш за ўсё, менавіта ўмацаванне ў веры. Каб гэтая наша беларуская легкавернасць ператварылася ў адважнае вызнанне веры ў Езуса. Падчас Эўхарыстыі мы стаім перад самай вялікай таямніцай нашай веры. Мы сустракаемся з Езусам Хрыстом – адзіным Пасрэднікам паміж Богам і людзьмі – і прымаем Яго цела пад постаццю хлеба. Мы спажываем ежу, якая павінна нас ацаліць, якая дае нам вечнае жыццё. На пачатку жніўня мы дастаткова часта чуем пра гэта ў Евангеллі, дзе Хрыстос абяцае нам вечнае жыццё і прыходзіць пад постаццю хлеба да кожнага з нас.

**Гэта вялікая таямніца нашай веры, у якой мы можам заняць сваё асобнае месца каля Пана, а Ён дасць нам шмат – тое, чаго мы найбольш патрабуем. Разумеючы, што без Бога мы не зможам нічога зрабіць, давайце прасіць, каб нашае жыццё было поўнае веры і даверу, каб яно было сведчаннем смерці і ўваскрасення Хрыста, а таксама чаканнем Яго паўторнага прыходу. Варта задумацца над тым, што Бог зрабіў у нашым жыцці, за што мы можам быць Яму ўдзячны.**

ДЭКАНАТ
Радунь

# Беняконі

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*


*Знешні выгляд святыні*


*Галоўны алтар*

Вёска вядома з XVII ст., калі яна належала роду Чаплінскіх. Касцёл пад тытулам св. Яна Хрысціцеля быў заснаваны тут па фундацыі тагачаснага ўладальніка вёскі графа Яна Сымонавіча Чаплінскага ад 16 жніўня 1634 г. і пабудаваны з дрэва. Адначасова з касцёлам граф перадаў касцёлу фальварак Хадкішкі і в. Перагані для ўтрымання там шпіталя на 16 чалавек, а ў 1638 г. зафундаваў яшчэ і парафіяльны шпіталь.

У 1737 г. быў скончаны касцёл, які будаваў тагачасны пробашч кс. Леон Мінкоўскі, а пасля яго смерці – кс. Ян Кант-Шабікоўскі. Прэзбітэрый касцёла быў мураваны, з дзвюма сакрыстыямі, а мастоўная зала – драўляная. Скатны гонтавы дах пасярэдзіне ўвенчвала вялікая вежа-сігнатура. Пры гэтым касцёл узгадваецца пад тытулам св. Юрыя.

Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі 4 алтары. Галоўны алтар быў створаны па фундацыі Яна Шрэтэра, кашталяна інфляндскага, у 1765 г. і кансэкраваны 13 сакавіка 1687 г. Уладзіславам Сільніцкім, біскупам-суфраганам віленскім. У цэнтры алтара быў змешчаны тытульны абраз св. Яна Хрысціцеля, а ў другім ярусе – абраз "Укрыжаванне". Левы бакавы алтар, устаноўлены ў 1742 г., быў прысвечаны св. Лаўрэнцію, правы ж, датаваны 1762 г., – Маці Божай Троцкай, абраз якой быў каранаваны. Чацвёрты алтар меў абраз святога Шкаплера. У арцы прэзбітэрыя быў выкарыстаны характэрны рэнесансны прыём – гарызантальная бэлька-зацяжка з Укрыжаваннем пасярэдзіне, таму магчыма, што мураваны прэзбітэрый – гэта і быў першапачатковы касцёл.

Апошні драўляны касцёл быў вытрыманы ў традыцыях народнага дойлідства з рысамі барока. Трохнававая святыня мела прамавугольны выцягнуты план, галоўны фасад быў вырашаны як шасціканонны порцік пад крывалінейным барокавым франтонам, завершаны глухой чацверыковай вежай пад чатырохсхільным дахам з карункавым крыжам.

Да 1808 г. да беняконскай парафіі належала капліца ў Канвелішках, пакуль там не ўтварылася самастойная парафія. У XIX ст. як прыпісная ўзгадваецца і філія ў Бутрыманцах (сёння парафія ў Літве), а колькасць парафіян складала амаль 5000 вернікаў.

На пачатку XX ст. у Беняконях вырашылі пабудаваць новы, ужо каменны, велічны касцёл. Святыню пачалі ўзводзіць у 1900 г. на гістарычным месцы па ініцыятыве і дзякуючы намаганням ксяндза пробашча Тадэвуша Загорскага, аб чым напісана на мемарыяльнай дошцы ў касцёле. Будаўніцтва скончылася ў 1902 г. Аб гэтым сведчыць пліта з датай MCMII, усталяваная на апсідзе храма. Святыня ўяўляе сабою дзвюхвежавую трохнававую базіліку з трансептам у эклектычным стылі з рысамі неабарока і неакласіцызму. Апсіда паўкруглая, фланкаваная дзвюма сакрыстыямі, якія злучаюцца аб'ёмам, што агінае па перыметры паўкруг апсіды. Галоўны фасад, завершаны трохвугольным франтонам, фланкаваны трох'яруснымі магутнымі чацверыковымі вежамі-званіцамі пад фігурнымі неабарокавымі купаламі са спічакамі. Цэнтральная нава і трансепт накрыты ўзаемна перпендыкулярнымі двухсхільнымі бляшанымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на тарцах і конусападобнай формай над алтаром.

Навы касцёла перакрыты крыжастымі скляпеннямі на падпружных арках. Выкарыстаны цікавы прыём асвятлення верхняга яруса галоўнага алтара шэрагам круглых вокнаў-люнетаў у конхавым скляпенні. Інтэр'ер упрыгожваюць тры двух'ярусныя алтары: галоўны прысвечаны патрону касцёла св. Яну Хрысціцелю, левы – Божай Міласэрнасці (у другім ярусе знаходзіцца абраз Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса), правы – Маці Божай Шкаплернай.

У 1925 г. Беняконі сталі цэнтрам аднайменнага дэканата Віленскай архідыяцэзіі. Да Другой сусветнай вайны Беняконскі дэканат складаўся з 11 парафій: Беняконі, Воранава, Осава, Германішкі і Канвелішкі, якія сёння знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, а таксама Бутрыманцы, Салечнікі (Шальчынікай) Вялікія, Салечнікі Малыя, Падбор'е і Дзевянішкі (цяпер тэрыторыя Літвы), а таксама парафія Геранёны (сёння Іўеўскі дэканат). Колькасць вернікаў у беняконскай парафіі перавышала ў той час 6500 чалавек.

На парафіяльных могілках у Беняконях пахавана Марыя Путкамер (+1856) з Верашчакаў, каханая Адама Міцкевіча.

Ліхалецце бязбожных дзесяцігоддзяў савецкай улады не абмінула і Беняконі. 8 чэрвеня 1951 г. ксёндз дзекан Дамінік Гайлюш быў арыштаваны і асуджаны на 25 гадоў катаргі, памёр у Іркуцку ў 1953 г. і там пахаваны, у Беняконях зроблена сімвалічнае надмагілле. На працягу наступнага дзесяцігоддзя да мясцовых вернікаў прыязджаў кс. Апалінарый Зубелевіч з Канвелішкаў, былы вікарый бяконскай парафіі. Але ў 1961 г. улады ўсё ж зачынілі касцёл у Беняконях, зрабіўшы ў будынку святыні сховішча паліва. Нягледзячы на гэта, касцёл атрымаў статус помніка архітэктуры. У будынку плябаніі была змешчана школа-інтэрнат, а пасля псіхіятрычная бальніца.

Потым было доўгае змаганне за вяртанне святыні, і нарэшце 10 снежня 1988 г. вернікі атрымалі ключы ад касцёла. Адразу распачалася рэстаўрацыя храма. 21 снежня 1988 г. адбылося першае набажэнства. У 1989–1994 гг. беняконскай парафіяй апекаваліся ксяндзы палаціны.

Дзейнічае касцёл св. Яна Хрысціцеля і сёння, у будынку плябаніі зноў жыве пробашч адроджанай парафіі.

# Скажы "НЕ" індуісцкаму фестывалю – святу фарбаў Холі

**Пад канец жніўня ў Гродне запланаваны Фестываль фарбаў. Яго арганізатары ўпэўніваюць, што гэта будзе сапраўднае свята, поўнае радасці, колераў, танцаў і спеваў. Аднак, ніадзін з плакатаў, што інфармуюць аб гэтай падзеі, не ўпамінае пра тое, што гэтая, здавалася б, прыемная забава выводзіцца з індуісцкай традыцыі.**



***Фестываль фарбаў Холі становіцца ўсё больш папулярным у многіх краінах, у тым ліку і каталіцкіх. У Беларусі каляровае шаленства таксама набірае абароты, пра што сведчыць нават той факт, што апошні фестываль, які прайшоў у Мінску, сабраў 30 000 удзельнікаў.***

Гэтае "свята" выводзіцца з розных індыйскіх міфаў, у залежнасці ад вызнаваемай традыцыі індуізму (Шываізм, Вайшнавізм) і рэгіёна Індыі (паўночныя, усходнія ці паўднёвыя штаты). Само слова "холі" азначае спаленне. Яго значэнне растлумачваюць шматлікія легенды. Найбольш вядомая з іх расказвае гісторыю бязлітаснага караля дэманаў – Хіраньякашыпу, які хацеў, каб усе ў яго каралеўстве маліліся толькі да яго. Аднак яго расчараваў уласны сын – Прахлада, які горача маліўся богу Нараяна (Вішну). Бацька не мог справіцца з сынам, таму вырашыў пакараць яго смерцю. Ён загадаў сваёй сястры Холіцы, каб яна атуліла пляменніка сваім целам і разам з ім увайшла ў палаючы агонь. Холіка валодала дарам, дзякуючы якому яна магла прайсці праз агонь без пашкоджанняў. Але яна не ўсведамляла, што яе дар дзейнічае толькі тады, калі яна праходзіць праз агонь адна. У выніку Холіка згарэла ў агні, а Прахлада цудоўным чынам ацалеў, быў вернуты да жыцця.

У Індыі падчас Холі амаль усе маюць выхадныя дні, таму яны патанаюць у каляровым натоўпе, аддаючыся нічым не абмежаванай забаве, не грэбуючь алкаголем і дазволеным у гэты час малочным напоем з дадаткам марыхуаны, гашышу і прыправаў. На дзіва, гэтыя небяспечныя напоі прадаюцца ці раздаюцца на вуліцах. Некаторыя не адчуваюць у гэтым меры, дадаткова адурманьваюць сябе алкаголем і становяцца больш агрэсіўнымі, небяспечнымі. Неаддзельным элементам святкавання з'яўляецца эйфарычнае абсыпанне каляровымі парашкамі. Аднак, варта адзначыць, што падчас Холі ў Індыі кожны год павялічваецца колькасць ахвяр каляровага пылу. У большасці выпадкаў гэта астма, алергія, захворванні скуры і нават страта зроку. Натуральныя фарбавальнікі нават у Індыі ўжываюцца пры гэтай забаве рэдка – часцей за ўсё ўжываюцца розныя хімічныя сумесі. Але нават пры ўжыванні гіпаалергенных фарбаў, вочы застаюцца неабароненымі, што вельмі небяспечна.

***Як выглядае Фестываль фарбаў у еўрапейскіх краінах, у тым ліку ў Беларусі?***

Кульмінацыяй забавы з'яўляецца адначасовае выкідванне ў паветра фарбаў Холі. У гэты момант над некалькітысячным натоўпам утвараецца каляровая хмара, якая праз хвіліну ападае, расфарбоўваючы ўдзельнікаў з ног да галавы. Са сцэны пачынае даносіцца вясёлая музыка, і ўсе кідаюцца ў вір забавы. Над святам лятаюць дроны, аснашчаныя камерамі, удзельнікі трымаюць міні-камеры на кансолях, фатографы і апараты разрываюцца на часткі, каб атрымаць найлепшыя кадры. Можа здавацца, што гэта каляровая захапляючая гульня. Але давайце задумаемся, ці можа чалавек, які гаворыць пра сябе, што ён веруючы хрысціянін, які практыкуе веру ў Бога Адзінага ў Тройцы, прымаць удзел у такога роду забавах? Абсыпанне каляровымі парашкамі з'яўляецца рэлігійным абрадавым элементам індуізму. Неяк складана сабе ўявіць, каб індуіст пайшоў, напрыклад, сыпаць кветкі на Божае Цела. Затое атрымліваецца так, што хрысціяне актыўна практыкуюць абрады іншай рэлігіі. З аднаго боку Фестываль фарбаў выглядае эфектна ў вялікім тлуме і выклікае шмат смеху і радасці, але гэтая нявінная забава ніяк не сумяшчаецца з верай у Езуса Хрыста: "Не май іншых багоў, апроч Мяне". А таму бяздумны адыход ад аб'яўленай ісціны з'яўляецца нявернасцю і нават, калі хтосьці ўвойдзе ў гэта глыбей, ідалапаклонствам. І хоць няма граху без яго ўсведамлення, калі хтосьці паінфармаваны, у выпадку нявернасці нараджаецца грэх. А таму варта памятаць, што ў Фестывалі фарбаў знаходзіцца спасылка на кагосьці іншага, чым у Езусавай малітве. Трэба таксама перадаваць інфармацыю пра карані і натхненне гэтага фестывалю, якія абсалютна супярэчаць вызнаванай намі хрысціянскай веры. Не можна шанаваць Езуса і адначасова кланяцца чужым бажкам!

***Падрыхтавала Кінга Красіцкая***

СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

*Папа Францішак*



*Езус наталяе не толькі матэрыяльны голад, але і самы глыбокі – голад сэнсу жыцця, голад Бога. Перад абліччам пакут, адзіноты, бядоты і цяжкасцей такой вялікай колькасці людзей, што можам зрабіць мы? Нараканні нічога не вырашаюць, але мы можам ахвяраваць тое нямногае, што ў нас ёсць. Напэўна, у нас ёсць нейкая гадзіна часу, якісьці талент, якаясьці асаблівасць... Калі мы будзем гатовыя скласці іх у рукі Пану, гэтага хопіць, каб у свеце стала трохі больш любові, супакою, справядлівасці і, перш за ўсё, радасці. Бог здольны павялічыць нашыя малыя жэсты салідарнасці і зрабіць нас удзельнікамі свайго дару.*

*"Анёл Панскі" са Святым Айцом*




# Бог – гэта цішыня, якая дазваляе крычаць



***Сёння сваю гісторыю распавядае айцец Андрэй Врублеўскі з Кангрэгацыі Найсвяцейшага Адкупіцеля.***

## З адкрытай каталіцкай сям'і

Айцец Андрэй паходзіць з Гродна. Ахрышчаны ў пабернардынскім касцёле. Першую святую Камунію прыняў у фарным касцёле ў 1989 годзе.

Гадаваўся ў сям'і католікаў. Тата працаваў кіроўцам, а мама – выхавацельніцай. У сужэнстве пара мела чацвёра дзяцей.

*"Мае бацькі вельмі адкрытыя людзі. У хаце заўсёды шмат гасцей. Бацькі прымаюць вернікаў, якія едуць у пілігрымкі, на розныя сустрэчы, рэкалекцыі. І сёння, калі камусьці трэба зрабіць прыпынак на начлег, я, канешне, тэлефаную бацькам".*

## Божае бласлаўленне

Хлопец скончыў адну з гарадскіх школ і паступіў у політэхнікум, каб атрымаць прафесію будаўніка.

*"Мы з сябрамі хадзілі сваімі шляхамі. І вось аднойчы мяне агарнуў страх, што я магу трапіць у непрыемную гісторыю. У кампаніі я зразумеў, што мяне ўратуе паслушэнства. На дапамогу прыйшла бабуля, якая задала мне пытанне: ты хочаш Божага бласлаўлення? Я адказаў згодай. З гэтага ўсё і пачалося...".*

Бабуля распавяла, што на Дзевятоўцы рамантуецца каплічка і там патрэбна дапамога. Хлопец стаў прыходзіць туды працаваць: дапамагаў мяняць дах, добраўпарадкоўваў тэрыторыю. Затым яго запрасілі на рэкалекцыі для моладзі.

*"У Новай Рудзе ў 1996 годзе я блізка пазнаў Хрыста, сустрэўся з Яго вялікім супакоем. Адкрыў для сябе, што трэба паступаць у ВНУ. Я ніколі пра гэта не думаў, бо хацеў ісці ў армію".*

## Жаданне ісці шляхам Хрыста

Ва ўзросце 19 гадоў юнак паступіў у Інстытут сучасных ведаў на спецыяльнасць "эканамічная інфарматыка". Адначасова пачаў працаваць аніматарам сярод моладзі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне.

Пасля першага курса зразумеў, што яго больш цікавіць духоўнае развіццё. Стаў наведваць курсы ў Катэхетычным інстытуце. Прыслухоўваўся. Прыйшоў да высновы, што трэба больш маліцца, часцей спавядацца. З дыскатэк ужо вяртаўся з ружанцам у руцэ.

*"Так я зразумеў сябе. А потым гэта перарасло ў жаданне ўмацавацца сілай звысока, і я прыступіў да сакраманту канфірмацыі".*

Пасля яго прыняцця малады чалавек атрымаў размілаванне на малітве і жаданне ісці шляхам Хрыста.

*"Да паступлення ў інстытут мне давялося разам з ксяндзом Анджэем Балукам вешаць карціны ў пабрыгіцкім касцёле. Пад канец нашай сустрэчы ён сказаў: "Будзь місіянерам". У той час я нават і не думаў пра гэта. Але яго словы паступова наспявалі ў маім сэрцы".*

## Рашэнне стаць місіянерам

Пастанову ісці дарогай святарства хлопец прыняў праз два гады, у Вялікі чацвер 1998 года.

*"Для мяне адкрылася таямніца, што быць святаром – гэта значыць абмываць людзям ногі. Дарэчы, гэты дзень да сённяшняга дня застаўся ў маім жыцці...".*

Увечары, пасля Імшы, бацька задаў хлопцу пытанне: што той хоча рабіць у жыцці. І пачуў адказ, што сын збіраецца ў семінарыю. Бацька кіўнуў і даў яму тры месяцы, каб вывучыць польскую мову, здаць усе экзамены і адпрацаваць практыкі.

*"Я сказаў Езусу «так», але думаў, што трэба пакуль яшчэ скончыць інстытут... А тут бацька паставіў перада мной канкрэтныя ўмовы. Гэта і прымусіла мяне «заварушыцца»".*

Пасля была пілігрымка ў Францыю.

*"Я быў у Лізье на магіле святой Тэрэзкі. Менавіта там я даведаўся пра яе, а таксама пра тое, што яна з'яўляецца заступніцай місіянераў. Тэрэзка мне вельмі блізкая сэрцам. Там, у Лізье, я і прыняў дакладнае рашэнне, што буду місіянерам".*

З Францыі хлопец вяртаўся не дадому, а ў семінарыю. Прысутнічаў на пасвячэнні першага беларускага рэдэмптарыста айца Станіслава Станеўскага. І ўжо ведаў, што летам вернецца сюды.

На трэцім курсе інстытута хлопец пакінуў установу: гэта быў адказ на пакліканне. У 1998 годзе паступіў у семінарыю. Спачатку два гады вучыўся ў Кракаве. Затым быў год навіцыяту, а потым – яшчэ чатыры гады вучобы ў Тухаве. Там жа 15 жніўня 2004 года айцец Андрэй склаў вечныя шлюбы. У Гродне восенню таго ж года з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча ён атрымаў дыяканскае пасвячэнне, а 28 мая 2005 года ў Тухаве адбылося яго святарскае пасвячэнне.

## Чалавек ад работы

Спачатку айцец Андрэй працаваў у Польшчы, у Шчэцінку. Праз год вярнуўся ў Гродна. Пачаў хадзіць у пілігрымкі. Затым арганізоўваў іх самастойна. На працягу пяці гадоў прамаўляў канферэнцыі ў абласным клінічным цэнтры "Псіхіятрыя-наркалогія". Быў памочнікам у арганізацыі Дыяцэзіяльнага душпастарства цвярозасці. У 2011 годзе паехаў вучыцца ў місійную школу ў Люблін. Праз два гады вярнуўся з місійным крыжам.

Адказвае за каталіцкіх скаўтаў у Гродзенскай дыяцэзіі. Акрамя таго, любіць арганізоўваць палатачныя гарадкі для моладзі. Супрацоўнічае з ваеннымі: ездзіць на прысягі, прамаўляе канферэнцыі. Па запрашэнні часта прыходзіць з Божым словам да студэнтаў, дзяцей, што знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы.

Айцец Андрэй характарызуе сябе як "чалавека ад работы". Сціпла называе сябе простым вікарыем, які "круціцца тут, праводзіць місіі, рэкалекцыі".

**"Бог для мяне – гэта міласэрны Айцец, які дазваляе сябе любіць. Гэта Езус Хрыстус, Адкупіцель і Брат, які заўсёды падтрымлівае. Гэта Дух Святы, які распальвае знутры і робіць цудоўныя рэчы ўва мне, нястомна мяне аднаўляе. Бог – гэта такая цішыня, якая дазваляе крычаць: яна ўваходзіць і разрывае ўсё вакол".**

***Ангеліна Пакачайла***

*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Само слова "навяртанне" вельмі ясна нагадвае аб змене напрамку жыцця з секулярнага на духоўны. Калі мы вядзём машыну і заблукаем, то на карце шукаем адпаведную дарогу, разварочваемся і едзем у іншым напрамку. Падобна павінна быць і ў духоўным жыцці. Неабходна толькі праз рахунак сумлення ўсвядоміць, што заблукалі і не ідзём указаным Богам шляхам, а таксама зрабіць з гэтага адпаведныя высновы, каб дзякуючы бязмежнай Божай міласэрнасці ў сакраманце пакаяння змяніць жыццёвы напрамак. У гэтым крыецца сакрэт нашага асабістага навяртання, якому прысвечана сёлетняя Малітоўная сустрэча моладзі.*

*Езус называе сябе Добрым Пастырам. У хрысціянскай іканаграфіі Ён адлюстраваны з заблукалай авечкай на плячах. Гэтай авечкай з'яўляемся мы, якія заблукалі ў жыцці.*

*Фрагмент гаміліі падчас святой Імшы завяршэння Малітоўнай сустрэчы моладзі ў Івянцы*



◆ *Аргентынская сям'я вандруе па Амерыцы, каб дабрацца на Сусветную сустрэчу сем'яў у Філадэльфіі з удзелам папы Францішка ў верасні бягучага года. Пілігрымы вырушылі ў сакавіку з Буэнас-Айрэса, а на дадзены момант яны знаходзяцца ў Нікарагуі. Альфрэда "Каціэ" Уокер і Ноэль Зэмборыян разам са сваімі дзецьмі падарожнічаюць аўтамабілем комбі 80-х гадоў. Дзеці ў гэты час вучацца дыстанцыйна. Гэтае шматмесячнае падарожжа дазволіць ім, як яны самі кажуць, "цешыцца сям'ёй, навучыцца падарожнічаць з невялікім багажом", а таксама "адарвацца ад руціны". Акрамя таго, бацькі хочуць паказаць сваім дзецям, што "свет нашмат большы, чым іх раён, што ёсць іншыя людзі" і што "калі яны нечага прагнуць, то яны могуць гэтага дасягнуць, нават калі гэта здаецца трохі шалёным". На шляху ў Філадэльфію гэтая сям'я наведае больш за 50 мясцовасцей. Яны ўжо праехалі праз аргентынскі горад Мендоса, затым праз Чылі ўздоўж пабярэжжа Ціхага акіяна дабраліся да Перу, а адтуль паехалі праз Эквадор, Калумбію, Панаму, Костарыку і дабраліся да Нікарагуі.*

◆ *У Кітаі хрысціяне з правінцыі Чжэцзян распачалі акцыю хатняга вырабу крыжаў пасля таго, як улады ліквідавалі там больш за 1200 касцёльных крыжаў. На сацыяльным партале "Weibo" з'явіліся здымкі людзей, якія робяць драўляныя крыжы і фарбуюць іх у чырвоны колер. Запісы на партале заахвочваюць хрысціян вешаць крыжы ў сваіх дамах і насіць з сабой. Гэтая акцыя стала рэакцыяй на ліквідацыю крыжаў, якія знаходзяцца па-за сценамі касцёлаў, што працягваецца ўжо паўтара года.*

◆ *У Італіі больш за мільён еўра, які быў сабраны падчас нядаўняга выстаўлення Турынскай плашчаніцы, будзе прызначаны на дапамогу самым бедным і мігрантам. Такое рашэнне прыняў папа Францішак, калі яго паінфармавалі аб колькасці ахвяраванняў, складзеных пілігрымамі. Грошы трапяць да патрабуючых праз "Карытас" і арганізацыю "Мігранты", а таксама праз іншыя касцёльныя таварыствы, якія дапамагаюць найбольш патрабуючым, як італьянцам, так і мігрантам.*

◆ *На сінодзе адной з італьянскіх дыяцэзій было прынята рашэнне аб перадачы многіх парафій у рукі свецкіх. У дыяцэзіі Бальцана-Брэсанонэ (Паўднёвы Ціроль) няма дастатковай колькасці духоўных асоб. У дыяцэзіі пражывае 500 000 чалавек і функцыянуе 281 парафія. Паводле прагнозаў, праз 20 гадоў там будзе служыць 70 ксяндзоў. Сінод тлумачыць, што падобныя рашэнні абавязковыя з-за вялізных праблем, з якімі змагаецца дыяцэзія. І хоць агульнае касцёльнае права толькі ў выключных выпадках дазваляе, каб парафіяй кіравала свецкая асоба, бязвыхаднасць прымушае дыяцэзію прыняць такое рашэнне.*

◆ *На першай старонцы апошняга жнівеньскага нумара "National Geographic" можна будзе ўбачыць Папу, які стаіць перад "Апошнім Судом Міхала Арханёла" ў Сіксцінскай капліцы. І менавіта пра Францішка будзе ўступны артыкул гэтага часопіса, прысвечанага геаграфіі, гісторыі і прыродзе. Будзе апублікавана таксама кніга аўтара згаданага артыкула, Роберта Драпера, пад назвай "Папа Францішак і новы Ватыкан". Ён правёў у Рыме 6 месяцаў і сачыў за дзейнасцю Святога Айца.*

*Ватыканскае радыё; pch24.pl; niedziela.pl; gosc.pl; katolik.ru*

***Кс. Ян Раманоўскі***

# Абп Тадэвуш Кандрусевіч: "Я жыву надзеяй, што Папа наведае Беларусь"

*працяг са с. 1*

**– Ці могуць туды звяртацца свецкія людзі, і калі так, то з якімі просьбамі ці праблемамі?**

– Безумоўна, свецкія асобы могуць звяртацца да канферэнцыі біскупаў. Яны могуць уносіць як свае прапановы, так і скаргі. Трэба толькі адрозніваць агульнакасцёльныя справы ў канкрэтнай краіне ад спраў канкрэтнай дыяцэзіі.

**– З каго складаецца епіскапат Беларусі? Што гэта за структура? Ці працуюць там свецкія?**

– Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі складаецца з усіх біскупаў нашай краіны. На чале яе стаіць старшыня, які выбіраецца на тры гады. Да кіраўніцтва канферэнцыі біскупаў належаць таксама віцэ-старшыня і генеральны сакратар, якімі з'яўляюцца адпаведна Я.Э. кс. бп Алег Буткевіч, ардынарый Віцебскай дыяцэзіі, і Я.Э. кс. бп Юзаф Станеўскі, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі. Старшыня і віцэ-старшыня выбіраюцца сярод біскупаў ардынарыяў. Безумоўна, свецкія таксама могуць працаваць у канферэнцыі біскупаў, асабліва ў сакратарыяце, што ўжо на працягу многіх гадоў практыкуецца ў Беларусі.

**– Якія найважнейшыя заданні павінен выконваць епіскапат?**

– Перш за ўсё, гэта каардынацыя мясцовага Касцёла, апрацоўка агульных рэкамендацый і душпастарскіх праграм, адказ на найважнейшыя пытанні, з якімі сустракаецца Касцёл, развіццё адносін з краінай і грамадствам, з іншымі канфесіямі і г.д. Напрыклад, на бліжэйшым пасяджэнні трэба зацвердзіць тэму наступнага душпастарскага года. Вядома, што гэта будзе Год надзеі ў праграме падрыхтоўкі да юбілею 100-годдзя Фацімскіх аб'яўленняў. Але трэба браць пад увагу таксама тое, што Святы Айцец Францішак аб'явіў наступны год Годам міласэрнасці. Таму трэба будзе спалучыць дзве гэтыя тэмы. У наступным годзе таксама прыпадае сярэбраны юбілей узнікнення Мінска-Магілёўскай мітраполіі і Гродзенскай дыяцэзіі. Таму трэба вырашыць, калі і як святкаваць гэтыя юбілеі. Я таксама лічу, што прыйшоў час арганізаваць у Беларусі Кангрэс Божай міласэрнасці. Гэта толькі некаторыя думкі, якімі я дзялюся з чытачамі "Слова Жыцця".

**– Дзе размяшчаецца наш епіскапат?**

– Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі мае свой сакратарыят, які размяшчаецца ў Мінску. І гэта зразумела, бо такія ўстановы ва ўсім свеце размяшчаюцца ў сталіцы краіны, што аблягчае кантакт з уладамі, грамадствам і іншымі веравызнаннямі.

**– Ксёндз Арцыбіскуп, як Вы лічыце, у якім напрамку павінен далей развівацца Касцёл у Беларусі?**

– Касцёл у Беларусі на працягу апошніх 25-ці гадоў зрабіў вельмі вялікі крок у сваім адраджэнні і развіцці. Але, як кажа прыказка, апетыт прыходзіць падчас харчавання, таму свет таксама развіваецца і нясе новыя выклікі, на якія трэба адказваць. Для адказнага выканання гэтай задачы згодна з патрабаваннямі свету ўжо не дастаткова толькі цэлебрацыі сакрамантаў, простай катэхізацыі, паняцця дабрачыннасці як толькі дару, атрыманага з Захаду, сустрэч моладзі, якія нярэдка ператвараюцца ў прыемную прыгоду і да т.п. Ужо на пачатку новага тысячагоддзя св. Ян Павел II заклікаў выплысці на глыбіню. Давайце прыгадаем гісторыю з Евангелля, калі Апосталы лавілі рыбу ўсю ноч, але так нічога і не злавілі. Хрыстос загадаў ім выплысці на глыбіню, і ўлоў быў настолькі вялікі, што ажно сеткі рваліся. У гэтым апавяданні ёсць таксама вялікая жыццёвая праўда. Днём вада на паверхні цяплейшая, чым на глыбіні, таму рыба знаходзіцца там, дзе глыбей, і менавіта там трэба яе лавіць. Падобным чынам адбываецца таксама з Касцёлам. Пасля гадоў адраджэння трэба выплысці на глыбіню, а не заставацца на мелі, бо вернікі павінны быць гатовы супрацьстаяць выклікам сучаснага свету. Трэба выйсці з закрыстый і ісці на перыферыю, несці Евангелле ўсім людзям, як вучыць папа Францішак. Хрыстос не сказаў "сядзіце і чакайце", наадварот, Ён загадваў ісці і хрысціць. Неабходна новая евангелізацыя нашых вернікаў, каб у маральных справах яны не былі падобныя на страуса, які ў хвіліны небяспекі хавае галаву ў пясок, каб яны мужна супрацьстаялі маральным праблемам сучаснасці, былі веруючымі не толькі ў касцёле, але і ў штодзённым жыцці. Як колер скуры чалавека заўсёды застаецца такі самы і не ўдасца яго змяніць, так і наша вера павінна заўсёды заставацца сталай, а не быць хісткай.



*Абп Тадэвуш Кандрусевіч падчас сустрэчы з папам Францішкам*

**– Ці з'яўляецца епіскапат прадстаўніком Касцёла перад дзяржавай? Як сёння выглядаюць адносіны Касцёла з дзяржавай у Беларусі?**

– Так, канферэнцыя біскупаў прадстаўляе Касцёл у Беларусі перад дзяржавай. Адносіны Касцёла з дзяржавай я б назваў рабочымі: пры дапамозе дыялогу мы вырашаем узнікаючыя праблемы. Асаблівай увагі заслугоўвае супрацоўніцтва ў дабрачыннай сферы, калі некаторыя праекты рэалізуюцца супольна.

**– Адкажыце, калі ласка, як на працягу апошніх гадоў змяніўся Касцёл у Беларусі з Вашага пункту гледжання? Раскажыце пра дасягненні і пра тое, што яшчэ трэба зрабіць.**

– Касцёл стаў больш бачны ў нашым грамадстве. Ён пысутнічае на радыё, тэлебачанні, у дабрачыннай дзейнасці і г.д. Узнікае ўсё больш сакральных будынкаў як месцаў сустрэчы чалавека з Богам. Прадстаўнікі Касцёла ўсё часцей запрашаюцца на розныя дзяржаўныя і грамадскія ўрачыстасці. Развіваецца супрацоўніцтва са светам навукі і культуры. Так зусім нядаўна Інстытут філасофіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі выступіў з прапановай сумеснай арганізацыі навуковай канферэнцыі, прысвечанай св. Яну Паўлу II. Сярод мноства задач, якія стаяць перад Касцёлам, я пералічу толькі некаторыя. Я ўжо казаў пра неабходнасць новай евангелізацыі і выплыццё на глыбіню. Асаблівай апекай трэба ахінуць моладзь, якая хоча быць сучаснай, і адначасова, бачачы пагрозы секулярызаванага свету, хоча захаваць сваю хрысціянскую тоеснасць. Інстынут сям'і таксама перажывае крызіс. А сям'я з'яўляецца асновай кожнага грамадства. Трэба яе ратаваць. Гэта супольная задача каталіцкага Касцёла, іншых веравызнанняў, у першую чаргу праваслаўя, і дзяржавы. Сацыяльная сітуацыя становіцца новым выклікам. Каб захаваць правілы сацыяльнай справядлівасці, трэба ўводзіць у жыццё правілы сацыяльнайга вучэння Касцёла. Памяншаецца колькасць пакліканняў да Божай службы, што становіцца новай сур'ёзнай задачай, якой нельга пагарджаць, бо ў нас будуць касцёлы, але не будзе каму ў іх працаваць.

**– Ксёндз Арцыбіскуп, Вы шмат падарожнічаеце па свеце. Ці ведаюць за мяжой пра каталіцкі Касцёл у Беларусі? Што пра яго гавораць, напрыклад, у Ватыкане ці ў іншых краінах?**

– Канешне ведаюць, але павінны ведаць лепш, бо наш Касцёл заслугоўвае гэтага. А гэта ўжо залежыць ад нас – біскупаў, святароў і свецкіх, як мы яго прадставім і ці імкнёмся мы да гэтага. Увогуле, у свеце пануе добрае меркаванне пра Касцёл у Беларусі, які перажыў часы пераследу, адрадзіўся і дынамічна развіваецца.

**– Некалькі разоў ад прадстаўнікоў дзяржаўнай улады можна было пачуць, што ў Беларусі не хапае мясцовых святароў. Якая Ваша пазіцыя адносна гэтай тэмы?**

– Гэта праўда. Мясцовых святароў усё яшчэ не хапае. Але трэба памятаць таксама пра тое, што за апошнія 25 гадоў іх колькасць павялічылася ў 6 разоў – з 60 да 360. Таму ёсць відавочны прагрэс. Калі б у якой-небудзь дзяржаве на працягу 70 гадоў не рыхтавалі ўрачоў, іх недахоп адчуваўся б вельмі доўга і трэба было б прасіць аб дапамозе замежных спецыялістаў. Падобным чынам складваецца сітуацыя з ксяндзамі.

**– У гэтым годзе пройдзе Сінод Біскупаў на тэму сям'і, і Вы будзеце на ім прадстаўніком Беларусі. Чаго Вы чакаеце ад Сінода і чым будзеце дзяліцца з Айцамі Сінода?**

– Тое, што папа Францішак другі год запар склікае Сінод, прысвечаны сям'і, гаворыць само за сябе. Сям'я перажывае крызіс, і задача Касцёла – дапамагчы ёй яго пераадолець. На Сінодзе я прадстаўлю сітуацыю сям'і ў Беларусі і намаганні як каталіцкага Касцёла, так і іншых канфесій, асабліва праваслаўнай Царквы, а таксама дзяржавы ў вырашэнні праблем, з якімі яна сустракаецца. У сувязі з тым, што ў наш час узнікла шмат нязгодных са здаровай навукай Касцёла трэндаў на тэму таго самага інстытута сям'і, я буду абараняць традыцыйную сям'ю як устаноўлены Богам адзіны непарыўны саюз мужчыны і жанчыны з мэтай супольнага жыцця, нараджэння дзяцей і іх выхавання.

**– Ці запрашае епіскапат Папу? Ці будзе ў гэтым кірунку праводзіцца далейшая праца?**

– Каталіцкі Касцёл ужо не аднойчы запрашаў Папу наведаць Беларусь, і гэтыя запрашэнні ўсё яшчэ актуальныя. Але для іх рэалізацыі неабходна таксама запрашэнне дзяржавы і хаця б дазвол з боку найбольшай рэлігійнай супольнасці, якой з'яўляецца праваслаўная Царква. Мы жывём надзеяй, што гэта адбудзецца, бо візіт Папы меў бы вельмі вялікае значэнне як для католікаў, якія маюць права і хочуць сустрэцца са сваім духоўным правадніком, так і для ўсёй краіны. Я жыву надзеяй, што Папа наведае Беларусь, і прашу маліцца аб гэтым.

***Ксяндзу Арцыбіскупу жадаем мноства Божых ласкаў на пасадзе старшыні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.***

# У Гродзенскай ВДС шэсць новых кандыдатаў



*Шэсць новых студэнтаў I курса разам з выхавацелямі Гродзенскай ВДС*

**27 ліпеня ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі адбыўся экзамен для кандыдатаў на першы год навучання. Перад гэтым, 23–26 ліпеня, абітурыенты прынялі ўдзел у рэкалекцыях па распазнанні паклікання.**

Пытанні на экзамене датычылі Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, жыцця Паўсюднага і лакальнага Касцёла. Гэта дазваляе ацаніць зацікаўленасць кандыдатаў жыццём Касцёла. Пытанні датычылі і структуры Касцёла ў Беларусі.

Кандыдатам трэба было таксама патлумачыць матывы свайго следавання за Хрыстом, растлумачыць унутраны голас, які кліча іх да працы ў Хрыстовай аўчарні.

На першы год навучання ў гродзенскую духоўную семінарыю прынята шэсць кандыдатаў, якія з 20 жніўня распачнуць вучобу і семінарыйную фармацыю.

**Новымі навучэнцамі семінарыі сталі:**

- **Сяргей Калюта**
  *(парафія св. Вацлава, Ваўкавыск);*
- **Уладзіслаў Малышка**
  *(парафія св. Вацлава, Ваўкавыск);*
- **Павел Седлярэвіч**
  *(парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, Новы Двор);*
- **Дзмітрый Дубай**
  *(парафія Маці Божай Нястомнай Дапамогі, Ізабелін);*
- **Вячаслаў Сягло**
  *(парафія Святой Сям'і, Ліда);*
- **Валянцін Міхайлін**
  *(парафія Святой Сям'і, Ліда).*

# Падзяка Пану за дар мучаніцтва бласлаўлёных сясцёр з Навагрудка

працяг са с. 1

## Ахвяра была прынята

Калі ў ліпені 1943 года гестапа арыштавала з намерам расстраляць 120 жыхароў Навагрудка, назарэтанкі на малітве ахвяравалі сваё жыццё Богу, выражаючы гатоўнасць памерці замест бацькаў сем'яў. У другі раз сёстры ахвяравалі сваё жыццё, каб уратаваць ад арышту капелана ксяндза Аляксандра Зянкевіча. Як адзіны святар у ваколіцы, ён быў вельмі патрэбны Касцёлу і людзям – так разважалі сёстры. Гэтая гераічная і велікадушная ахвяра назарэтанак была мілай Богу і была Ім прынята.

Арыштаваныя гестапа мужчыны – бацькі сем'яў з Навагрудка і ваколіц – не загінулі: пакаранне смерцю было заменена для іх вывазам на прымусовыя працы ў Германію. Ксёндз Аляксандр Зянкевіч таксама пераліжыў вайну.

У 72-ю гадавіну смерці назарэтанак-мучаніц, якіх 1 сакавіка 2000 г. беатыфікаваў Папа Ян Павел ІІ, лес пад Навагрудкам наведалі пілігрымы. Частка з іх прыбыла ў VII пешай пілігрымцы з Гродна. Наведаць месца пакарання прыйшлі таксама вернікі з Новай Мышы (Пінская дыяцэзія), якіх у апошнія хвіліны іх пілігрымавання суправаджаў біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка.

На малітве сабраліся і сёстры з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, удзячныя сваім папярэдніцам за гераічнае складанне жыцця на алтары ў інтэнцыі сем'яў.



Сёстры назарэтанкі разам з вернікамі на малітве

Усе прыбылі са сваімі інтэнцыямі, а таксама каб праз заступніцтва бласлаўлёных сясцёр мучаніц з Навагрудка маліцца за ўсе народы, якія перажываюць вайну, за хрысціян, якіх пераследуюць за веру, за краіны, у якіх адбываюцца ўзброеныя канфлікты, дзе пануюць насілле і смерць. Сабраныя маліліся, каб добры Бог даў людзям ласку навяртання, каб краіны і народы адмовіліся ад вайны і мелі адвагу стаць на шлях паяднання, прабачэння і супакою.

## Незвычайная смерць

Святую Імшу каля крыжа, які ўсталяваны на магіле адважных манахінь і з'яўляецца заахвочваннем для чалавека XXI стагоддзя, што варта прысвяціць сваё жыццё Хрысту, узначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. Імшу канцэлебравалі біскуп Антоній Дзям'янка і прысутныя святары. У гаміліі біскуп Кашкевіч назваў лес, які стаў нямым сведкам апошніх хвілін жыцця навагрудскіх мучаніц, месцам "страшным", але адначасова "святым". Іерарх адзначыў, што смерць назарэтанак была смерцю незвычайнай. "Сёстры склалі сваё жыццё як свядомую і добраахвотную ахвяру ў жэсце гераічнай любові да Бога і бліжняга, – сказаў біскуп. – Таму для нас, тых, хто сёння схіляе галовы перад веліччу іх учынку, гэты лес пад Навагрудкам з'яўляецца перш за ўсё святым месцам – яго асвяціла мучаніцкая кроў, пралітая адважнымі манахінямі".

Гродзенскі ардынарый нагадаў сабраным, што сёстры назарэтанкі прыбылі ў Навагрудак па запрашэнні біскупа Зыгмунта Лазінскага, сёння Слугі Божага, і адразу прыступілі да выканання свайго штодзённага служэння з вялікай ахвярнасцю і самаадданасцю. "Яны былі проста благаславеннем і душой гэтага горада", – дадаў іерарх.

## Паказалі веліч годнасці чалавека

Біскуп Аляксандр Кашкевіч заахвоціў прысутных, якія прыбылі, каб стаць на зямлю, акропленую крывёй мучаніц, да падзякі Пану за вялікі дар мучаніцтва сясцёр назарэтанак і за іх сведчанне нязломнай веры і гераічнай любові да Бога і да бліжняга. Па словах іерарха, сваім жыццём і смерцю сёстры паказалі веліч годнасці чалавека і хрысціяніна, "даказалі, што гэтай годнасці нішто не здолее патаптаць: ні нянавісць, ні страх, ні нават смерць".

Таксама ў гэтым асаблівым месцы Гродзенскай дыяцэзіі прагучала малітва ў інтэнцыі хуткай беатыфікацыі сястры Малгажаты Банась – дванаццатай назарэтанкі з Навагрудка, якой не дадзена было атрымаць ласку мучаніцтва разам з яе сёстрамі. Святасць яе жыцця, вялікая адданасць, з якой яна служыла народу Божаму, цярплівасць і пакора, з якімі прымала цярпенні – усё гэта таксама з'яўляецца прыгожым сведчаннем вернасці Хрысту і ўласнаму манаскаму пакліканню.

Шматлікая прысутнасць пілігрымаў у гэты дзень стала выразам памяці пра сясцёр мучаніц, пра святасць іх жыцця і пра гераізм іх смерці.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Чырвоная нітка на запясці. А ты ведаеш яе паходжанне?



**Многія вядомыя людзі, у тым ліку прадстаўнікі моцнай паловы чалавецтва, носяць чырвоную нітку на запясці рукі. Гэты талісман быццам абараняе чалавека ад злога вока, не ўпускае ў аўру негатыўную энергію. Вельмі часта завязваюць яе немаўлятам, каб не сурочылі (ад злога вока). Але калі разглядзець сапраўднае ўзнікненне гэтага звычаю, то ахоплівае жах, асабліва калі ты хрысціянін.**

***Святы Касцёл вучыць: "Забабоны несумяшчальныя з верай, таму што гэта грэх супраць першай запаведзі Божай – «Не май іншых багоў, апроч Мяне»" (Зых 20, 2).***

### *Для хрысціяніна гэта недапушчальна!*

Узнікла гэтая нітка задоўга да хрысціянства і завязвалася бацькамі ці жрацом падчас прысвячэння дзяцей Ваалу ў якасці сведчання прысвячэння. Калі дзіця вырастала, яно павінна было аддаць богу Ваалу нявіннасць (палавы акт з жрацом, незалежна ад полу).

**Ваал** (Баал, Бел, Баель, Ваэль) – магутны дэман, вядомы ў старажытнасці як фінікійскае і заходнесеміцкае боства. Яго імя перакладаецца як "гаспадар", "уладар", "спадар" – так называлі многіх багоў асобных мясцовасцей (часцяком дадаючы да тытула і назву мясцовасці (напр.: Баал-Гал, Ваал-Пэорыя) ці сферу яго "валодання" (напр.: Ваал-Хаддад – бог буры, Ваал-Шамем – бог сонца і інш.). Ваала ўшаноўвалі ў Сірыі, Палестыне, Угараў, Фінікіі, Ханаане, Карфагене, Вавілоне і інш. Ён лічыўся сынам Дагона і мужам Астарты. Вядомы яго малюнак у выглядзе быка (сімвал урадлівасці) або воіна, які дзівіць зямлю дзідай. Свяшчэннае дрэва Ваала – кедр. Месцам яго жыхарства лічылася гара Цафон (сёння гара аль-Акра), фактычна Ваала разглядалі як уладальніка сусвету. У Егіпце ён атаясамляўся з Сэтам, у эпоху элінізму – з Зеўсам. Захаваліся сведчанні аб распаўсюджанні культу Ваала не толькі на Паўночную Афрыку, але ў больш познія часы нават на ўсю Еўропу, уключаючы Скандынавію і Брытанскія астравы. Да цяперашняга часу ў Ірландыі і Уэльсе захаваліся абрады, якія нагадваюць старажытнае пакланенне Ваалу. Ён атаясамліваецца з кельцкім богам сонца Велінам або Веліна, а таксама з Вельтанам – кельцкім святам пакланення агню.

Ідаласлужэнне Ваалу было галоўным і прытым звычайным грахом старажытных габрэяў. Ваалу, як і Малоху, прыносілі чалавечыя ахвяры або прысвячалі дзяцей ("І зладзілі вышыні Ваалу, каб паліць сыноў сваіх агнём на целаспаленне Ваалу" (Ер 19, 5)). Служэнне яму суправаджалася вялікай пышнасцю і ўрачыстасцю. Прарок Ілля, а ўслед за ім і іншыя прарокі, горача выступалі супраць прыхільнікаў гэтага ідала.

У пякельнай іерархіі з "De Praestigius Daemonum" Іагана Вейера Ваал знаходзіцца сярод міністраў пекла, ён галоўнакамандуючы пякельнай арміі. Пераважная большасць дэманолагаў атаясамліваюць Ваала з Баэлем – першым духам у спісе "Lemegeton" і "Pseudomomarchia Daemonum" Вейера. Згодна з "Lemegeton", Баэль – "першы галоўны дух – кароль, кіруючы на Усходзе... Ён з'яўляецца ў розных формах, часам падобна кату, часам падобна жабе, часам падобны чалавеку, а часам ва ўсіх гэтых формах адразу" (Вейер лічыць, што Баэль з'яўляецца з трыма галовамі – ката, жабы і чалавека ў кароне; у пазнейшых апісаннях да гэтага дадалося плоскае тоўстае цела і мноства павуковых ног, якія растуць па баках). Размаўляе хрыплым голасам. Надзяляе людзей нябачнасцю (і мудрасцю, згодна Вейеру). Кіруе 66-цю легіёнамі пякельных духаў. Згодна з "Grand Grimoire", Баэль – адзін з трох галоўных духаў, якія знаходзяцца ў служэнні ў прэм'ер-міністра пекла Люцыфуга Рафокаля.

У позняй кабале (напр. у МакГрэгара Маттэрса, Папюса і інш.) Ваал (Баал Ханан – Баал-Ханан) – сёмы з дзесяці архідэманаў, дух вераломства, бязлітасны і падступны. Сучасныя акультысты звязваюць яго з сіламі разбурэння, нянавісці, помсты, вайны. У "загаворы сямі" (д-р Папюс), у адным з радкоў напісана: "In nomine Adonai per Gabriel vade retro Baal!" ("У імя Адаснай, праз Гаўрыіла, выйдзі Ваал!").

**Вельмі хочацца спытаць бацькоў: што вы робіце з дзецьмі? Ці хочаце ім шчасця? Хочаце іх зберагчы? Прысвячаючы дэману?!! Не здзіўляйцеся, што вашыя дзеці хварэюць або маюць зламанае жыццё. Вы самі выбралі ім апекуна...**

*А. Андрэй Паўлішын OSBM, Рух Святло-Жыццё*

## З КАТАЛІЦКАГА ДРУКУ

Radio Vaticana

### *Дабрачынная акцыя вячэр у Мілане*

***З 1 жніўня міланскае аддзяленне каталіцкай дабрачыннай арганізацыі "Карытас" разам з архідыяцэзіяй і мясцовымі органамі ўлады пачало дабрачынную ініцыятыву, мэтай якой стане дапамога найбольш бедным сем'ям горада.***

*У дзясятках піцэрый, сталовак і рэстаранаў Мілана кліенты, разлічваючыся за вячэру, змогуць пакінуць ахвяраванне на харчаванне для тых, хто не можа сабе гэтага дазволіць. Сабраныя сродкі будуць ператвораны ў ваўчары на суму 10 еўра кожны, якія можна будзе рэалізаваць у 4 тысячах супермаркетах, рэстаранах, піцэрыях і кафетэрыях па ўсім горадзе. Ваўчары паступяць да патрабуючых праз 171 цэнтр міланскага аддзялення "Карытас".*

eKai.pl

### *Расчытаны стараяўрэйскі біблійны рукапіс*

***Сучасная тэхніка дазволіла расчытаць адзін з самых старажытных стараяўрэйскіх рукапісаў. Гэта абвуглены кавалак пергаментнага скрутка даўжынёй 7 см, знойдзены ў 1970 г. на руінах сінагогі ў аазісе Эйн-Гэдзі ў Юдэйскай пустыні над Мёртвым морам.***

*Толькі праз 45 гадоў гэты манускрыпт, які паходзіць з VI ст. пасля нараджэння Хрыста, удалося расшыфраваць ізраільскім і амерыканскім вучоным пры дапамозе камп'ютараў універсітэта штата Кентукі. Аказалася, што ў ім запісаны 8 першых вершаў Кнігі Левіта са Старога Запавету. Старэйшымі за гэты рукапіс з'яўляюцца толькі рукапісы, знойдзеныя ў 50-х і 60-х гадах мінулага стагоддзя ў Кумране, таксама над Мёртвым морам. Яны датуюцца ад III ст. да нараджэння Хрыста да I ст. пасля Яго нараджэння.*

RADIO MARYJA • KATOLICKI GŁOS W TWOIM DOMU • UKF •

### *Папа Францішак – першы ўдзельнік Сусветных дзён моладзі*

***Непасрэдна пасля малітвы "Анёл Панскі" Святы Айцец зарэгістраваўся як першы ўдзельнік Сусветных дзён моладзі ў Кракаве.***

*"Пры дапамозе планшэта я запісаўся як першы ўдзельнік гэтай сустрэчы. Гэты дзень, які адбудзецца ў Год міласэрнасці, будзе, у пэўным сэнсе, юбілеем моладзі, закліканай разважаць над тэмай: «Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць» (Мц 5, 7). Запрашаю моладзь усяго свету да ўдзелу ў гэтай пілігрымцы ці прыязджаючы ў Кракаў, ці далучаючыся да гэтай падзеі ласкі ў сваіх супольнасцях", – сказаў Папа.*

*Кінга Красіцкая*

## Кс. бп Аляксандр Яшэўскі SDB наведаў парафію ў Жодзішках

*26 ліпеня ў парафії Найсвяцейшай Тройцы адбылася адпуставая ўрачыстасць, прысвечаная св. Ганне – апякунцы касцёла. На ўрачыстасці сабралася больш за тысячу вернікаў: парафіян, гасцей з суседніх парафій і з-за мяжы.*



Акрамя духавенства з суседніх парафій, ва ўрачыстасці прыняў удзел дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Аляксандр Яшэўскі SDB, які ў 2000–2001 гадах працаваў тут на пачатку свайго святарскага служэння.

Вернікі выказвалі падзяку за працу сённяшняга дапаможнага біскупа на ніве Божай і ўважліва слухалі тлумачэнне Божага слова аб навяртанні, а таксама ўспаміны біскупа пра час працы ў гэтай парафіі.

Адпуставая св. Імша завяршылася эўхарыстычнай працэсіяй вакол касцёла і благаслаўленнем, якое ўдзяліў біскуп Аляксандр Яшэўскі.

## "Канікулы з Богам" у Смаргоні

*З 13 па 24 ліпеня ў парафіі св. Міхала Арханёла ў Смаргоні праходзіў лагер для дзяцей. Каля 100 дзяцей разважалі над жыццём св. Яна Боско праз сведчанне хлопцаў, якія яго сустрэлі пры жыцці.*



Па прыкладзе Луіджы Камола, Філіпа Рынальдзі, Луіджы Арыёна, Міхала Руа, Яна Баціста Франчэзіо, Барталамея Гарэллі і іншых дзеці вучыліся быць радаснымі, дасягаць сваіх мэт, быць адной сям'ёй у Хрысце, пазнаваць сябе, распазнаваць сваё пакліканне і імкнуцца да святасці. Прыклад гэтых хлопцаў паказаў удзельнікам лагера, як ксёндз Боско змяніў іх жыццё, як пасля сустрэчы з ім яны ўбачылі сапраўдную радасць у прабыванні з Хрыстом у Эўхарыстыі. Таму невыпадкова дэвізам лагера былі словы: "Яны спаткалі ксяндза Боско". На працягу 10 дзён дзеці імкнуліся рабіць маленькія крокі напераад да святасці падчас штодзённай святой Імшы, вясёлых танцаў, працы ў групах і, канешне, гульняў.

## Кс. бп Юзаф Станеўскі наведаў парафіяльны фэст у Клюшчанах

*26 ліпеня ў клюшчанскім касцёле, адным з самых аддаленых касцёлаў Гродзеншчыны, адбыўся парафіяльны фэст у гонар святога Яўхіма, бацькі Маці Божай.*



У гаміліі біскуп Юзаф Станеўскі заахвочваў, каб з вуснаў усіх людзей гучала падзяка Пану Богу за сваіх бацькоў, якія далі нам жыццё і дар веры.

"Сёння Касцёл і наш народ патрабуюць святых бацькаў і святых маці, якія будуць даваць прыклад хрысціянскага жыцця сваім дзецям", – сказаў біскуп.

У гэты дзень бп Юзаф Станеўскі цэлебраваў святыя Імшы таксама ў Міхалішках у парафіі св. Міхала Арханёла, якая перажывала адпуставую ўрачыстасць св. Ганны, і ў Жукойнях-Жэлядскіх у парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі з Гары Кармэль.

## У Гродне адбыліся рэкалекцыі распазнання пакліканне

*У рэкалекцыях, якія праходзілі ў Гродзенскай ВДС, прыняло ўдзел каля 40 маладых людзей з розных парафій дыяцэзіі.*



У праграме рэкалекцый былі канферэнцыі, святая Імша, адарацыя, ранішнія і вячэрнія малітвы, магчымасць прыступіць да сакраманту пакаяння, размовы з духоўным айцом і семінарыстамі. Рэкалекцыі далі маладым людзям магчымасць задумацца над сваім жыццём і над тым, ці зяўляецца святарства іх пакліканнем.

Кожны дзень духоўных практыкаванняў быў вельмі насычаны і нагадваў звычайны дзень семінарыста. Ён пачынаўся малітвай у капліцы – месцы, дзе сабраныя праводзілі шмат часу на каленях, як на індывідуальнай малітве, так і на супольнай адарацыі. Таксама ўдзельнікі наведалі Узгорак надзеі ў Капцёўцы, дзе знаходзіцца дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Яснагорскай Цярпліва Слухаючай.

Падчас рэкалекцый удзельнікам служылі дапамогай, словам і парадай мадэратары семінарыі, духоўныя айцы і семінарысты.

## "Няхай Эўхарыстыя заспакоіць голад нашых сэрцаў"

*Аб розных відах голаду, якія можа адчуваць чалавек, і аб тым, што толькі Езус Хрыстус можа заспакоіць найбольш важны, духоўны голад, казаў біскуп Аляксандр Кашкевіч на нядзельнай св. Імшы 26 ліпеня ў парафіі Адшукання Святога Крыжа ў Жырмунах.*



Гродзенскі ардынарый прыбыў у парафію, каб удзяліць сакрамант канфірмацыі групе з прыблізна 50 вернікаў.

Разважаючы над фрагментам Евангелля, біскуп адзначыў, што існуюць розныя віды чалавечага голаду – такія, як голад шчасця і радасці, голад міру і любові, голад сэнсу жыцця і існавання, голад справядлівасці і праўды, голад сяброўства і міжчалавечай салідарнасці. Усе яны, як адзначыў іерарх, "сустракаюцца ў адным асноўным голадзе – голадзе Бога".

Тых, хто прымаў у гэты дзень сакрамант канфірмацыі, біскуп заахвоціў даваць сябе іншым і станавіцца для бліжніх добрымі, як хлеб, ахвяроўваць тым, хто гэтага патрабуе, свой час, сваё сэрца, самаахвяраванне дапамогу.

## Кс. бп Юзаф Станеўскі наведаў дзіцячы лагер

*Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі наведаў дзіцячы лагер адпачынку "Няцеч" пры Дабрачынным каталіцкім таварыстве "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі.*



З гэтай нагоды дзеці падрыхтавалі святочны канцэрт, падчас якога паказалі ўсе свае творчыя здольнасці. Пасля мастацкай праграмы адбылася святая Імша ў касцёле св. Міхала Арханёла, якую ўзначаліў біскуп Юзаф. У гаміліі іерарх заклікаў дзяцей заўсёды, а асабліва падчас канікул, памятаць пра Бога і не забываць аб малітве. Таксама ён заахвоціў дзяліцца радасцю і дабром з усімі людзьмі.

## АНОНСЫ

## У Тракелях пройдзе сустрэча выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў Гродзенскай дыяцэзіі

**29 жніўня ў санктуарыі Маці Божай Каралевы Сем'яў у Тракелях адбудзецца V Дыяцэзіяльная сустрэча выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў Гродзенскай дыяцэзіі.**



**Праграма:**

10.30 – прывітанне і агульная малітва;
10.45 – канферэнцыя "Настаўнік у адносінах да выклікаў часу ў святле сучаснага навучання каталіцкага Касцёла";
– перапынак на каву;
11.45 – Крыжовы шлях;
12.30 – святая Імша;
– выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту;
– акт даверу Божай Маці новага навучальнага школьнага і акадэмічнага года;
14.00 – супольны абед;
15.00 – прэзентацыя з канферэнцыяй на тэму правядзення працы аніматараў у калектывах дзяцей і падлеткаў;
– перапынак на каву;
16.30 – падвядзенне вынікаў і заканчэнне.

## ЗАПРАШАЕМ

## Катэхетычныя курсы ў Гродне аб'яўляюць набор на вучобу

Катэхетычныя курсы ў Гродне аб'яўляюць набор на 2015–2016 навучальны год. Дадзеныя курсы для тых, хто жадае глыбей пазнаць каталіцкую веру і стаць правадніком на шляху да збаўлення для іншых.

У праграме навучання прадугледжана вывучэнне каталіцкай дагматыкі, маральнай і духоўнай тэалогіі, Святога Пісання, катэхетыкі, кананічнага права, літургікі, каталіцкай псіхалогіі і педагогікі, каталіцкага сацыяльнага вучэння, этыкі сямейнага жыцця і іншых прадметаў.

Навучанне працягваецца 3,5 гады. Заняткі праходзяць два разы на месяц (субота і нядзеля) з кастрычніка па чэрвень. Пасля заканчэння курсаў выпускнікі змогуць аказваць дапамогу ў катэхізацыі ў парафіях.

**Кандыдаты павінны прадставіць у сакратарыят Гродзенскай курыі да 30 жніўня наступныя дакументы:**

- пасведчанне аб хросце
- атэстат сталасці
- рэкамендацыю ад пробашча
- медыцынскую даведку
- аўтабіяграфію
- чатыры фатаграфіі
- ксеракопію пашпарта
- заяву з просьбай аб прыняцці.

**Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефонах:**
**(8-0152) 75-33-08,**
**(8029) 976-15-69.**

*Прадугледжана папярэдняя суразмова.*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці ёсць у Вашым аўтамабілі выява св. Хрыстафора?***




*Чарговае апытанне было прысвечана св. Хрыстафору, заступніку вадзіцеляў. На пытанне, ці маюць вадзіцелі ў сваіх аўтамабілях выяву святога, большасць дала станоўчы адказ. Толькі вельмі малы працэнт рэспандэнтаў адказаў, што не мае абразіка святога ў сваім аўтамабілі.*

***Рэзультаты чарговага апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



*Кс. Павел Салабуда*

*Святы Хрыстафор – вельмі папулярны святы сярод нашых вернікаў, асабліва сярод мужчын. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца вялікая колькасць мужчын у касцёле ў дзень успаміну святога заступніка, а таксама мноства машын, якія стаяць пры нашых святынях. Варта як мага часцей прасіць аб заступніцтве святога Хрыстафора, каб на нашых дарогах было спакойна і бяспечна. А мужчыны з яго дапамогай могуць знайсці свой шлях да Касцёла. Давайце маліцца за нашых вадзіцеляў і ўсіх тых, хто карыстаецца рознага тыпу транспартнымі сродкамі.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**14 жніўня 1996 г.** – кс. прэлат Баляслаў Гаўрыхоўскі, *проб. Гожа;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Станіслаў Хадыка, *проб. Гервяты;*
**17 жніўня 1978 г.** – кс. Часлаў Штэйн, *проб. Радунь.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




***Хвала Хрысту!***

*Вітаю ўсіх чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары з Вамі паразважаем пра высакародныя паводзіны, самаадданасць і бескарыслівасць. Даведаемся, як акультурыць глебу душы і пражыць жыццё так, каб потым ні пра што не шкадаваць.*

***Што ж, наперад з Богам!***



*Ангеліна Пакачайла*

# Акультурыць свае паводзіны

### ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ:

***"Паглядзіце, браты, на пакліканне вашае. Няшмат сярод вас мудрых паводле цела, няшмат моцных, няшмат шляхетнага паходжання" (1 Кар 1, 26).***

Гаворка ідзе пра мудрасць, уплывовасць і знатнае паходжанне. Але Бог часцей заклікае людзей простых, якія нічым не вылучаюцца, бо чалавек павінен не хваліцца перад Усявышнім, а хваліць Яго.

### ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА:

***каб усе людзі, якія працуюць на ніве валанцёрства, велікадушна служылі патрабуючым***

Добраахвотнікі робяць гэты свет крышачку дабрэйшым. Кожны з нас можа аддаць ім кроплю сваёй сілы праз малітоўную падтрымку. Зробім разам вялікую справу!

### ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА:

***высакароднасць***

Першапачаткова высакароднасць азначала знатнае паходжанне, пазней – маральную якасць чалавека незалежна ад яго сацыяльнага становішча. Сёння высакароднай лічыцца асоба сумленная і самаадданая, гатовая дапамагчы таму, хто мае ў гэтым патрэбу. Пад высакароднасцю разумеецца душэўная чысціня, высокая маральнасць, разуменне таго, што кожны заслугоўвае справядлівасці.

Ці ёсць месца высакароднасці ў маім жыцці? Ці лічу я сябе высакароднай асобай? Час паразважаць над гэтымі пытаннямі.

### МЭТА МЕСЯЦА:

***акультурыць свае паводзіны***

Звычайна акультурваюць, напрыклад, прыкасцёльную тэрыторыю або ўчастак каля хаты. Паспрабуем жа акультурыць свае думкі і пачуцці, а разам з імі – і ўчынкі. Для гэтага трэба ўзвысіцца і напоўніцца глыбокім сэнсам. Дапамогай паслужыць літаратура, мастацтва, праца. Пасля гэтага паводзіны, безумоўна, набудуць высакародны бляск і адценне ўзнёсласці.

### СПРАВА МЕСЯЦА:

***зрабіць учынак "на карысць рода"***

Раней людзей з маленства вучылі жыць сумленна, каб не зганьбіць свой род. Высакародны чалавек імкнуўся праславіць дынастыю добрымі справамі. Аснову ўчынкаў складалі бескарыслівасць і гатоўнасць паступіцца асабістымі інтарэсамі.

Магчыма, варта задумацца над тым, як выказаць падзяку продкам? Дзякуючы ім, Ты як мінімум атрымаў у спадчыну сваё прозвішча.

### ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Вельмі важна", Наталля Літвіенка

"Вельмі важна пражыць гэтае жыццё, і потым ні пра што не шкадаваць". Песня пра тое, як трэба цаніць кожную хвіліну свайго існавання. Радасць дзяліць з бліжнім, яго патрэбу і гора прапускаць праз сябе. "Каб потым ні пра што не шкадаваць, трэба Госпаду верна служыць", – спяваецца ў прыпеве.

### КНІГА МЕСЯЦА: "Няма нічога немагчымага з Богам", Кэтрын Кульман

На старонках гэтай кнігі Вы сустрэнецеся з марскім капітанам, які вылечыўся ад раку кішэчніка, з актрысай, якая цудоўным чынам пакінула наркотыкі, з доктарам, жонка якога за секунды ачуняла ад СНІДу, а таксама з многімі-многімі іншымі. Гэтыя ўнікальныя гісторыі з'яўляюцца неабвержным сведчаннем цудоўнага пераўтварэння, якое Бог можа даць кожнаму, хто Яго шукае.




### АСОБА МЕСЯЦА:

***святая Клара***



Нарадзілася Клара ў 1194 годзе ў Асізі (Італія). Сям'я дзяўчынкі была адной з самых багатых дваранскіх сямей той мясцовасці. Лінія продкаў Клары прасочваецца ажно да Карла Вялікага. Дзяўчынка была старэйшай сярод трох сясцёр. Калі Клары споўнілася 12 гадоў, бацькі намерваліся аддаць яе замуж. Але ў яе атрымлівалася ўпэўніць іх пачакаць з планамі аб замужжы ажно да 18-гадовага.

Клара ведала гісторыю навяртання Францішка Асізскага. Акрамя таго, два першых яго паслядоўніка – Руфіно і святар Сільвестр – былі яе дваюраднымі братамі. Падчас Вялікага посту ў 1212 годзе ў саборы Сан Руфіно Францішак прамовіў некалькі казанняў. Узрушаная яго словамі, Клара прыняла канчатковае рашэнне пайсці за Хрыстом па прыкладзе Францішка, а пасля асабістай сустрэчы з ім дзяўчына вырашыла збегчы з дому.

У Пальмовую нядзелю таго ж года Клара прыбыла ў Порцыункулу, дзе яе чакаў Францішак. Перад алтаром у капліцы ён абрэзаў яе доўгія валасы і выбрыў танзуру. Там дзяўчына змяніла сваё элегантнае ўбранне на строгае францішканскае адзенне і склала шлюбы. З-за рашучага жадання сям'і вярнуць Клару дадому, яна вымушана была ўцякаць і хавацца. Пазней заснавала ордэн кларысак.

Памерла Клара 11 жніўня 1253 года. Кананізавана папам Аляксандрам IV у 1255 годзе. З'яўляецца заступніцай тэлебачання.

***Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў жніўні?***

*Св. Лідзія (3 жніўня), св. Клаўдзія (7 жніўня), св. Дамінік (8 жніўня), св. Раман (9 жніўня), св. Клара (11 жніўня), св. Максім (13 жніўня), св. Стэфан (16 жніўня), св. Алена (18 жніўня), св. Эмілія (24 жніўня), св. Наталля (26 жніўня), св. Фелікс (30 жніўня).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце на паштовую скрыню рэдакцыі або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*




# 10 дзён малітваў, спорту і гульняў

Летнія выязныя канікулы перажыла моладзь парафіі св. Тэрэзы Авільскай горада Шчучын. Гэта быў час духоўнага напаўнення і актыўнага адпачынку.

"Ён і я" – такой была тэма адпачынку ў гэтым годзе. Моладзь спрабавала заўважыць і падкрэсліць ролю Бога ў сваім жыцці. Чытанне Бібліі ўмацоўвала перакананасць у магчымасці асабістай размовы з любячым Татам. Імша, якую маладыя людзі маглі перажываць разам з жыхарамі вёскі, замацоўвала прысутнасць Святога Духа сярод адпачываючых.














## Што такое ўнебаўзяцце?

*Роздум над ісцінай аб унебаўзяцці Марыі варта распачаць, разглядаючы два творы мастацтва. Першы – гэта карціна Тыцыяна, дзе адлюстравана Марыя, якая ўзносіцца ў неба ў акружэнні анёлаў. Другі – карціна Дуччо дзі Буонінсенья, на якой мы бачым паміраючую Марыю, а таксама Езуса, які прытуляе да сябе Яе душу. Паміж двума гэтымі адлюстраваннямі існуе напружанне. Згодна з хрысціянскай традыцыяй, Маці Езуса памерла, была ўваскрошана і прынята ў нябесную хвалу. Пад гэтай традыцыяй падпісваюцца таксама некаторыя Айцы Касцёла, напрыклад, Мадэст Ерузалемскі (+630) ці Ян Дамаскін (+749). Марыя павінна была наследаваць свайго Сына і ў смерці, і ва ўваскрасенні. Паколькі Хрыстос стаў падобным да нас ва ўсім, таксама і ў смерці, то няма прычын для таго, каб Маці Езуса павінна была пазбегнуць смерці перад сваім уваскрасеннем. Тут варта прыгадаць словы св. Яна Паўла ІІ, прамоўленыя падчас агульнай аўдыенцыі 25 чэрвеня 1997 года: "Марыя, каб магчы ўдзельнічаць у таямніцы ўваскрасення Хрыста, павінна была таксама разам з Ім прайсці праз смерць. Можна сказаць, што пераход з гэтага ў іншае жыццё быў для Яе выспяваннем ласкі ў хвале, таму можна разумець Яе смерць як свайго роду «засынанне»". Такім чынам, рэальнасць смерці і рэальнасць унебаўзяцця не з'яўляюцца ўзаемавыключальнымі. Дык што ж такое ўнебаўзяцце?*

*Жыццё Марыі – ад Яе беззаганнага зачацця ажно да канца зямнога жыцця – было святым, гэта значыць, што ў ім не было месца для граху. Жыццё Маці Езуса не было забруджана грахом. (Гэтага не можа сказаць пра сябе ніадзін з нас, таму што на лініі нашага жыцця ёсць месцы, пазначаныя грахом.) Таму ўсё жыццё Марыі "падабалася" Богу і ўсё было "у імгненне вока" прынята Ім, г.зн. у-неба-ўзята. Пад словамі "ўсё жыццё Марыі" разумеем усё, чым з'яўляецца чалавечае жыццё: учынкі, словы, думкі, пачуцці і да т.п. Яна была ўнебаўзята "з душой і целам". Гаворка ідзе пра тое, што ўсе Яе ўражанні і ўвесь вопыт, што адносяцца да душы і да цела, былі бязгрэшнымі. Выражэнне "з душой і целам" азначае ні больш ні менш усю, цэласную, усеагульную асобу Марыі, аддадзеную Хрысту і Яго Касцёлу. Догма аб унебаўзяцці сцвярджае канчатковае перамяненне ўсяго чалавека дзякуючы Божай ласцы, выражае праўду пра лёсы людзей, якія дасягнулі хвалы, і распавядае аб надзеі ўсяго Касцёла. Марыя ўнебаўзятая, дасягнуўшы паўнаты збаўлення, з'яўляецца для нас сімвалам нябеснага Касцёла, Касцёла хвалы, да якога мы далучымся пасля сваёй смерці. І хоць мы не будзем у-неба-ўзяты такім жа чынам, як Марыя, таму што нашае жыццё павінна быць спачатку ачышчана ад грахоў, але верна служачы Хрысту, дзякуючы падтрымцы Яго Маці мы дойдзем да нашай нябеснай айчыны.*

***Паводле www.pamiecin.org***




# Хоры Анёлаў

**– А Анёлы адрозніваюцца адзін ад аднаго?**
*У Пана Бога няма нікога і нічога аднолькавага. Анёлы ў тым ліку.*
**– Дык чым яны адрозніваюцца?**
*Са Святога Пісання і ад святых мы ведаем пра дзевяць анёльскіх хораў: Серафімы, Херувімы, Троны, Панаванні, Моцы, Валадарствы, Княствы, Арханёлы, Анёлы.*
**Усе святыя Хоры блаславёных Анёлаў,**
*маліцеся за нас.*
*(з Літаніі да святых Анёлаў)*



**Анёльская азбука**

# Анёл з паходняй

*Сёння паходня ўжо не ўжываецца кожны дзень. Некалі яе ўжывалі асабліва для таго, каб асвятляць дарогу ноччу. Можа, менавіта таму на некаторых абразах можна ўбачыць Анёлаў з паходняй – з жывым Божым агнём, які павінен асвяціць цемру, выкліканую грахом. Злы дух любіць цемру, але Анёлы заўсёды асвятляюць чалавечыя шляхі. Таму варта клікаць іх на дапамогу і прытрымлівацца Божага святла, каб не заблукаць у дарозе.*

***С. Эстэра, ларэтанка***

# Ад шчырага сэрца

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Пятровічу з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, шмат Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і людской дабразычлівасці. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Ад усяго сэрца дзякуем за дабрыню, адкрытае сэрца і адданую працу на карысць Богу і людзям.

*З павагай "Легіён Марыі" з пар. Божай Міласэрнасці на Вішняўцы*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні спалучаныя з малітвай: шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Духа Святога, няспыннай апекі Маці Божай, стойкасці на святарскім шляху, які вызначыў Вам усемагутны Бог, а таксама людской дабрыні. Мы ўдзячны Пану Богу за тое, што ў нас служыць шчыры ў малітве святар, які вучыць нас быць сапраўднымі хрысціянамі і заўсёды знаходзіць добрае слова для кожнага чалавека.

*З малітвай і павагай Апостальскі рух "Маргарытка" і Жывы Вяночак Міласэрнасці*

Паважанаму Ксяндзу Паўлу Звяжынскаму з нагоды юбілею Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог дае Вам шмат сіл і здароўя, Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, памнажае Вашу мудрасць і падтрымлівае ў цярпенні, а Маці Божая няхай няспынна апекуецца Вамі. Мы шчаслівыя, што Вы з намі, што Вы паказваеце нам прыклад спакойнага, сціплага чалавека з вельмі добрай душой, цудоўнага святара, які імкнецца паглыбіць нашу веру і наблізіць нас да Пана Бога. Дзякуем Вам за працу ў нашай парафіі, за цярплівасць да нас, за мудрыя, павучальныя казанні, дабрыню і сціпласць, добрае і чулае сэрца, а Вашай маме – за сына святара.

*З малітвай і павагай вернікі з пар. св. Юрыя ў Варнянах*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Звяжынскаму з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Хрыстос, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая няхай ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць святарскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю. Шчасці Божа!

*З павагай вернікі з пар. св. Юзафа ў Гродне*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Быкоўскаму з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, моцы і цярплівасці ў выкананні душпастарскіх абавязкаў. Няхай кожны дзень будзе напоўнены супакоем і Божым благаслаўленнем. Няхай добры і міласэрны Бог штодзённа Вас благаслаўляе, Маці Божая ахінае плашчом сваёй мацярынскай апекі і любові, Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач. Сто гадоў!

*З павагай верныя парафіяне і Ружанцовае кола св. Яна Непамуцэна са Станевічаў*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, шчасця і душэўнага супакою. Няхай добры Бог Вас благаслаўляе, Маці Божая падтрымлівае сваёй апекай і любоўю, а Святы Дух адорвае сваімі шчодрымі дарамі. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены радасцю, а побач заўсёды будуць зычлівыя людзі. Мы ўдзячны Вам за ўсё, што Вы для нас робіце, за Вашу дабрыю і адкрытае сэрца.

*З малітвай сям'я Саўко з в. Вейшычы*

Паважанаму Айцу Максімільяну Свяржэўскаму з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, радасці і душэўнага супакою. Няхай Бог шчодра адорвае Вас сваім благаслаўленнем, а Святы Дух спасылае свае шматлікія дары. Няхай Марыя заўсёды будзе побач з Вамі, падтрымліваючы ў цяжкія хвіліны сваёй мацярынскай любоўю і клопатам. Няхай Ваш св. Апякун заступаецца за Вас, выпрошваючы для Вас у Пана ўсе ласкі.

*З дарам малітвы Рыцарства Беззаганнай*

Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму з нагоды Дня нараджэння перасылаем шчырыя пажаданні мноства Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і напоўнены Панам. Маці Божая няхай заўсёды клапоціцца пра Вас і ахінае сваёй любоўю, а Хрыстос нястомна будзе для Вас прыкладам сапраўднага і святога святара.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Смаргоні*

З нагоды свята Маці Божай Кангрэгацкай ад усяго сэрца жадаю поспехаў, радасці і душэўнага супакою ўсім жывым асобам, у тым ліку Ірыне Кідзун і Ганне Багатыровіч, якія ў 1947–1948 гадах кленчылі на ступеньках пры ўваходзе ў святыню з ружанцамі ў руках, молячыся на працягу месяца да Пана Бога і Найсвяцейшай Маці ў інтэнцыі ацалення святыні ад разбурэння. Гэта дзякуючы Вам касцёл быў выратаваны. Гэта Вы былі прыкладам прыгожай і моцнай веры! Жадаю Вам моцнага здароўя і мар, за якія варта змагацца, без якіх немагчыма жыць. Няхай добры Бог благаслаўляе Вас, а Марыя мае ў сваёй апецы.
Ад усяго сэрца дзякую Маці Божай Кангрэгацкай, якая выслухала малітвы, што ўзносіліся да Яе, і ўратавала святыню.

*Удзячная парафіянка з гродзенскай катэдры Пелагея*

Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няспыннай апекі Панны Марыі на нялёгкім шляху святарскай паслугі, дароў Святога Духа для адданай службы Богу і людзям. Шматлікіх штодзённых Божых ласкаў, душэўнага супакою, людской зычлівасці, нязгаснага запалу для абвяшчэння Божага слова, моцнага здароўя, шчасця, радасці, усмешкі і доўгіх гадоў жыцця. Шчасці Божа!

*Удзячныя былыя парафіяне*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу з нагоды Дня нараджэння жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, стойкасці і моцы ў выкананні святарскай паслугі. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю, а побач заўсёды будуць добразычлівыя людзі.

*З малітвай былыя парафіяне з в. Станелевічы і Занеўская Ірына Іванаўна з Гродна*

Паважаны Ксёндз Павел Звяжынскі! З нагоды надыходзячага Дня нараджэння перасылаем свае шчырыя пажаданні. Няхай усемагутны Бог дапамагае Вам у ажыццяўленні планаў, а Маці Божая няспынна моліцца за добрага і любімага нашага святара перад Божым тронам, няхай ахінае сваёй апекай і прытуляе да свайго матчынага сэрца! Моцнага здароўя на доўгія гады і жыццёвай мудрасці ў выкананні штодзённых спраў!

Святар – дарадца,
мудры і цярплівы,
У час патрэб звяртаемся
да Вас,
Каб шчырым словам,
часам жартаўлівым,
Вы па-бацькоўску
падтрымалі нас.
Прыміце сёння нашы
віншаванні,
Паклон падзякі нізкі
да зямлі.
Здароўя Вам і благаслаўлення Пана,
Апекі Маці Божай,
цеплыні!
Каб кожны дзень,
асветлены дарамі
Святога Духа, праўдай
адкрыцця,
Віталі мы сардэчна
разам з Вамі!
Вам доўгіх і шчаслівых
год жыцця!

*Парафіяне з капл. св. Юрыя, в. Варона*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Алегу Жураўскаму з нагоды 40-годдзя перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце у сваіх святарскіх руках, благаслаўляе кожны Ваш дзень. Маці Божая Успамога хрысціян няхай ахінае Вас сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна спаўняць святарскую паслугу. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена спакоем і любоўю.

*Закрыстыянін Здзіслаў, міністранты, парафіяне са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Алегу Жураўскаму з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем душэўнага супакою, поспехаў і стойкасці ў душпастарскай працы, добразычлівых і надзейных людзей. Жадаем Вам здароўя, каб яно ніколі не пакідала, а шчасце каб было заўсёды побач, няхай з твару не зыходзіць усмешка, над галавой заўсёды свеціць сонца і ніколі не слабее надзея на лепшае. Няхай кожны дзень будзе напоўнены Божым благаслаўленнем і апекай Маці Божай.

*Парафіяне з в. Дварэц*

15 жніўня Антоній і Яніна адзначаюць 40-ю гадавіну шлюбу, дзякуючы Богу за супольна пражытыя гады і стойкасць у сужэнстве. З гэтай нагоды складаем ім самыя сардэчныя пажаданні: апекі Маці Божай і св. Антонія, Божых ласкаў, памяркоўнасці і цярплівасці адзін да аднаго.
У гэты дзень таксама бярэ шлюб іх сын Ян. Таму жадаем Яну і Таццяне Божага благаслаўлення на доўгія гады, моцнай любові і нязгаснага энтузіязму. Няхай Святая Сям'я будзе для іх прыкладам, каб сваім жыццём яны сведчылі аб Богу і былі ўзорам для іншых.

*Сем'і Лазавіцкіх, Эйсмантаў і Кучынскіх*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4369; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная